


# „ГЛЯДЗЕЦЬ НА ТРАВУ”

Багацці беларускай літаратуры становяцца ўсё больш даступнымі польскаму чытачу. На паліцах кнігарань нашай краіны часцей і часцей паяўляюцца новыя пераклады твораў беларускіх пісьменнікаў на польскую мову. Не так даўно «Ніва» паведамляла аб выхадзе ў лодзінскім выдавецтве анталогіі беларускай паэзіі «Беларускія вершы», а ўжо выйшаў у свет зборнік апавяданняў вядомага сучаснага беларускага празаіка Янкі Брыля «Глядзець на траву»[1]) ў перакладзе Юзэфа Мацея Кановіча пад рэдакцыяй Тадэуша Хрусцялеўскага.

Лодзінскае выдавецтва, прадстаўляючы польскаму чытачу постаць беларускага пісьменніка, у сваёй ноце падкрэслівае, што «Брыль з'яўляецца дасканалым назіральнікам і псіхолагам, майстрам заўважаць і на жыва пераказваць дробныя малюнкі з жыцця, якім дае абагульняючае значэнне. Яго апісанні прыроды, асабліва палескай, нагадваюць найлепшыя старонкі з кніг Вейсенгофа».

У зборнік увайшлі 23 апавяданні і лірычныя мініяцюры, напісаныя Я. Брылем у розныя гады і прадстаўляючыя ўсе перыяды яго багатай звыш 30-цігадовай навелістычнай творчасці.

Янка Брыль прыйшоў у беларускую літаратуру ўжо ў пасляваенны час. Яго першы зборнік апавяданняў выйшаў у Мінску ў 1946 годзе і паказаў аўтара як пісьменніка з вялікім жыццёвым вопытам і адметным мастацкім стылем. Нарадзіўся ён 4 жніўня 1917 года ў Адэсе ў сям'і чыгуначніка. У 1922 г. уся іх сям'я вяртаецца на радзіму ў вёску Загор'е на Навагрудчыне. У суседнім мястэчку Турэц будучы пісьменнік канчае польскую сямігодку, з якой ён вынес замілаванне да мастацкага слова. Беларускаму сялянскаму юнаку чароўны свет літаратуры дапамагла адкрыць настаўніца-полька. Аб ёй ва ўступным артыкуле «Да польскага чытача», якім адкрываецца зборнік, Я. Брыль піша: «Паланістка і настаўніца спеваў, пані Мар'я вучыла нас, заходнебеларускіх пастушкоў, любіць усё высакароднае і каштоўнае ў літаратуры і музыцы польскага народа. Яна — «крэсавая» полька, выхаванка рускай гімназіі — ведала нашую літаратуру і народную творчасць і ў часе рэдкіх урокаў беларускай мовы адкрывала перад намі нашую, уласную, родную прыгажосць. Яна таксама была школьным бібліятэкарам, з яе рук трапляли да нас умела падобраныя кнігі, перакладзеныя з іншых моваў. Пасля верасня 1939 года пані Мар'я працавала ў савецкай школе, а ў дні нямецкай акупацыі загінула ў лагеры смерці ў Калдычаве. Яе жыццё стала часцінкай майго, да яе постаці я ўжо два разы вяртаўся ў сваіх творах (у аповесці «Сірочы хлеб» і рамане «Птушкі і гнёзды») і цяпер яе тут яшчэ раз з самай сардэчнай удзячнасцю ўспамінаю».

Пасля заканчэння пачатковай школы Я. Брыль працуе на гаспадарцы, многа чытае. Спрабуе пісаць вершы і апавяданні, з якіх «Дзіця» і, закончанае ў пазнейшы час, «Марыля», знаходзім у зборніку. У 1939 годзе яго прызываюць у Войска Польскае. Ён служыць у марской пяхоце і ў трагічныя дні верасня разам са сваімі польскімі сябрамі-салдатамі абараняе Гдыню. Затым фашысцкі палон, падняволеная праца ў маёнтку баўэра і на шклозаводзе, а таксама — другі раз — уцёкі ўвосень 1941 года на радзіму. Гэты жудасны час знайшоў адлюстраванне ў апавяданнях пісьменніка «Шумела мора», «Кроў на сцяне», «Сонечны зайчык» і «Зязюлька», што змешчаны ў зборніку. У хуткім часе Я. Брыль ідзе ў партызаны і там у брыгадзе імя Жукава служыць сувязным, затым працуе рэдактарам партызанскай газеты «Сцяг свабоды». Да ўспамінаў з тых гераічных гадоў пісьменнік часта будзе вяртацца ў сваіх творах. У зборніку ім прысвечаны «Маці», «Казачок», „Memento mori” і іншыя апавяданні.

Паглыблены псіхалагічны аналіз чытач знойдзе ў апавяданні «Глядзець на траву», якое замыкае зборнік.

Я. Брыль вядомы ў Беларусі як аўтар шматлікіх аповесцей, як перакладчык твораў М. Канапніцкай, Л. Кручкоўскага, Т. Ружэвіча, У. Махэека і іншых польскіх пісьменнікаў на беларускую мову.

Канчаючы нашу інфармацыю аб польскім выданні выбраных апавяданняў беларускага пісьменніка, хочацца ўслед за Янкам Брылем выразіць сардэчную ўдзячнасць лодзінскім прыяцелям беларускай літаратуры, якія клапоцяцца пра тое, каб наблізіць да польскага народа літаратурныя здабыткі яго бліжэйшага суседа — беларускага народа.

*Мікалай Гайдук*

[1]) Janka Bryl, „Patrzeć na trawę”, Wydawnictwo Łódzkie 1971.



# 30 ГАДАВІНА ППР

31 студзеня г.г. у клубе работнікаў культуры і мастацтва «Муза» ў Беластоку была адкрыта выстаўка пад загалоўкам «ППР — тварэц Людовага польскага войска». Арганізавалі яе Музей польскага войска ў Беластоку і клуб «Муза». Ва ўрачыстасці адкрыцця выстаўкі прымалі ўдзел: сакратар ВК ПАРП тав. Я. Златажынскі, намеснік старшыні Прэзідыума ВРН Р. Лазаровіч і былы намеснік камандзіра I Дывізіі пяхоты імя Тадэуша Касцюшкі — Уладзімір Сакорскі (на здымку).

З нагоды пабыўкі ў Беластоку старшыня камітэта па справах радыё і тэлебачання Уладзімір Сакорскі правёў сустрэчы з афіцэрамі і ЗМС-аўскай моладдзю. Расказаў ён аб баявым паходзе I Дывізіі імя Т. Касцюшкі і аб станаўленні народнай улады ў Польшчы пасля вызвалення. Адказаў ён таксама на пытанні адносна сваёй нядаўна выдадзенай кніжкі пад загалоўкам «Палякі пад Леніна» і даваў аўтографы.

(ця)

*Фота: ЦАФ Р. Сянько*



# ДЗЕЯЧАМ ППР

Як мы ўжо інфармавалі, гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку правёў урачысты сход, прысвечаны 30 гадавіне ППР.

На сход прыйшлі старэйшыя і моладзь, каб сустрэцца з тымі, хто ствараў партыю, з тымі, якія былі яе першымі членамі. Успамінамі аб дзейнасці пэпээраўскай арганізацыі ў Гарадку падзяліўся з прысутнымі Сяргей Гайдук, які разам са сваёю жонкаю Надзяй дзейнічаў у гэтым мястэчку.

З прыемнасцю паведамляем нашым чытачам, што за актыўную дзейнасць у радах Польскай рабочай партыі Рада Дзяржавы прызнала Надзі Гайдук Афіцэрскі крыж Ордэна адраджэння Польшчы. Ганаровую адзнаку «Заслужаны Беласточчыне» атрымалі дзеячы ППР, актывісты нашага таварыства, між іншымі, Аляксандр Кунах і Рыгор Скарынкевіч. Шчыра віншуем.

*На здымку: На ўрачыстым сходзе ў БГКТ выступае Сяргей Гайдук.*

*Тэкст і фота А. Карпюк*

# БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

АЛЕКСАНДРОВІЧ Андрэй, Вершы, стар. 176, ц. 5 зл. 90 гр.

Гэтая кніжачка выбраных вершаў беларускага паэта старэйшага пакалення выйшла ў цыкле «Бібліятэка беларускай паэзіі» ў малафарматным кішэнным выданні. Змяшчае яна лепшыя творы розных год А. Александровіча — аднаго з лепшых майстроў беларускай лірыкі.

Рэкамендуем усім любіцелям беларускай паэзіі.

ЖЫЧКА Хведар. «Настой», Мінск 1968, стар. 80, цана 1 зл. 80 гр.

Гэта зборнічак вершаў сучаснага беларускага пісьменніка сярэдняга пакалення, вядомага нам больш за ўсё з яго творчасці для дзяцей і моладзі. Але ў «Настоі» чытач знойдзе спелую паэзію Х. Жычкі, прысвечаную прыгажосці жыцця і вернасці высокаму грамадскаму абавязку чалавека ў сацыялістычным грамадстве.

Рэкамендуем усім любіцелям беларускай паэзіі.

ШАХАВЕЦ Уладзімір. «На зімнім возеры», Мінск 1970, стар. 24, цана 90 гр.

Зборнічак, у які ўвайшлі тры апавяданні для дзяцей малодшага школьнага ўзросту. Зборнічак аздоблен прыгожымі каляровымі ілюстрацыямі.

Зборнічак павінен абавязкова апынуцца ў школьных і грамадскіх бібліятэках, а таксама ў школьнікаў. Ён вельмі карысны для дзяцей малодшых класаў.

# У ГОНАР ЯНКІ КУПАЛЫ І ЯКУБА КОЛАСА

Камітэт святкавання 90 гадавіны з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа пад старшынствам члена прэзідыума ГП БГКТ, паэта А. Баршчэўскага на сваім пасяджэнні 26 студзеня гэтага года апрацаваў багаты план мерапрыемстваў, якія будзе праводзіць на працягу ўсяго 1972 года Беларускае грамадска-культурнае таварыства для ўшанавання светачаў беларускай літаратуры.

Пазнаёміць членаў БГКТ і шырокую грамадскасць з жыццёвым і творчым шляхам Я. Купалы і Я. Коласа дапамогуць спецыяльныя даклады, якія апрацоўваюць члены камітэта і з якімі выступіць актыў нашай арганізацыі на ўрачыстых акадэміях, сходах і вечарынах. Для мастацкай часткі гэтых урачыстасцей рыхтуюцца літаратурныя мантажы, адзін з іх будзе прадстаўляць паэтычную творчасць Я. Купалы, другі, — выбраныя эпізоды з паэзіі, прозы і публіцыстыкі Я. Коласа.

«Ніва» прадбачвае публікаваць на сваіх старонках значную колькасць матэрыялаў, прысвечаных творчасці і дзейнасці абодвух пісьменнікаў.

Галоўнае праўленне БГКТ паклапоціцца аб тым, каб запрасіць на Беласточчыну прадстаўнікоў Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Члены камітэта выступяць у польскім друку з артыкуламі, знаёмячымі грамадскасць нашай краіны з велічнымі постацямі Янкі Купалы і Якуба Коласа і іх сувязямі з польскай літаратурай.

Цэнтральную ўрачыстую акадэмію, прысвечаную Янку Купалу, вырашана правесці ў пачатку ліпеня ў памяшканні Галоўнага праўлення БГКТ. На ёй з канцэртнай праграмай па творах народнага беларускага паэта выступіць мастацкі калектыў з Гарадка.

У пачатку лістапада цэнтральная ўрачыстасць у гонар Якуба Коласа адбудзецца таксама ў памяшканні Галоўнага праўлення БГКТ. Мастацкую частку яе ўзбагацяць выступленні пераможцаў міжшкольнага конкурсу на вечарыну, прысвечаную 90 гадавіне Я. Купалы і Я. Коласа, лаўрэаты конкурсу «Беларуская песня — 72», артысты эстрады «Лявоніха».

Члены літаратурна - мастацкага аб'яднання «Белавежа» ўнясуць у вянок памяці выдатных беларускіх пісьменнікаў прысвечаныя ім свае творы.

Камітэт святкаванняў 90 гадавіны з дня нараджэння Я. Купалы і Я. Коласа атрымае ўсебаковую дапамогу з БССР ад Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, якое ў сваім лісце да Галоўнага праўлення БГКТ ад 6 студзеня 1972 года паведаміла, што «Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі разам з творчымі арганізацыямі рэспублікі рыхтуюць комплексныя матэрыялы, прысвечаныя знамянальным датам: біяграфічныя артыкулы, успаміны сучаснікаў, фотападборкі, кінафільмы, грампласцінкі, магнітафонныя плёнкі з запісам галасоў паэтаў і канцэртных праграмаў на тэксты Я. Купалы і Я. Коласа».

Камітэт святкаванняў 90 гадавіны з дня нараджэння Я. Купалы і Я. Коласа выражае сардэчную ўдзячнасць нашым савецкім таварышам за дапамогу, якая з'яўляецца гарантыяй, што ўсе мерапрыемствы Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў гонар вялікіх творцаў беларускай літаратуры будуць праходзіць з багатай праграмай і на належным узроўні.

*Мікалай Гайдук*

# ТРЫБУНА чытачоў

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ:

Па бацьку, які памёр у 1965 г., засталася сельская гаспадарка і ў горадзе дом з невялікім пляцам. Я маю двух братоў і сястру, але ўсе яны здаўна працуюць у горадзе і сельскай гаспадаркай не займаюцца. Суд прызнаў нас усіх як наследнікаў у роўнай частцы, але права да гаспадаркі прызнаў толькі мне. Каб канчаткова ўпарадкаваць уласнасць, я хацеў звярнуцца ў суд наконт падзелу спадчыны, аднак мне адрадзілі, кажучы, што цяпер на аснове новых законаў гэтыя справы вырашае прэзідыум павятовай рады. У прэзідыуме я рашучага адказу не атрымаў. Парайце, куды мне звярнуцца ў гэтай справе?

АДКАЗ:

Сцвярджэнне праз суд, што вы з'яўляецеся наследнікам сельскай гаспадаркі раўназначна сцвярджэнню, што вы з'яўляецеся ўласнікам гэтай гаспадаркі, і ў прэзідыум вам звяртацца не трэба. Справу ўскладняе тое, што апрача гаспадаркі, у спадчыну ўваходзіць пляц з домам, якія не з'яўляюцца часткай сельскай гаспадаркі, а з'яўляюцца гарадской нерухомай маёмасцю. Права да яе прыслугоўвае ўсім наследнікам. Вы, як і кожны з наследнікаў, можаце падаць у суд наконт падзелу спадчыны. На ўдзел, які вам прыпадае, суд залічыць вартасць сельскай гаспадаркі. Калі б вартасць гаспадаркі аказалася большай, чымсьці вартасць вашага ўдзелу ў спадчыне, гэтыя наследнікі не могуць ад Вас патрабаваць сплаты. Калі б ваш удзел быў большы, чым вартасць гаспадаркі, іншыя наследнікі абавязаны былі б сплаціць Вам розніцу.




## МУРАШКА

*Ці помніш, як мы ў лес хадзілі?*
*Шукалі мурашак удвая.*
*Ты мяне скалыхнула моцна,*
*Калі я ў цябе мурашку знайшоў.*
*Ты паглядзела на мяне вясёла,*
*Хацела, каб я больш чаго шукаў.*
*Я не здагадаўся, сказаць трэба,*
*Ды забыць гэтага не магу.*
*Ну, як цяпер цябе не любіць?*
*Прызнацца, сам не ведаю.*
*Хацела ты ў лесе заручыны зрабіць:*
*— Адна бяда — ты за малады.*
*Асягнулі мы сваё шчасце,*
*Але мне здоўжылася чакаць.*
*Доўга мы з табой блудзілі,*
*Пакуль я зразумеў, як мурашкі шукаць.*

*Вінцук Рыбалт*
*Дуброва Беластоцкая*

даваўся, спяваў, святкаваў на вуліцах і плошчах сваю другую маладосць...

А між тым ішоў чэрвень 1941 года. У школах горада паспяхова завяршаліся выпускныя экзамены. Мы параіліся ў гаркоме і вырашылі адзначыць заканчэнне навучальнага года вялікім настаўніцкім святам.

У суботу вечарам 25-ая школа, пасвяточнаму прыбраная, прымала настаўнікаў горада. Я зачытаў загад аб прэміраванні вялікай групы педагогаў граматамі, каштоўнымі падарункамі, пуцёўкамі ў дамы адпачынку. Я бачыў на вачах у многіх слёзы. Узнагароджаныя выступалі. Гаварылі пра цяжкае, часам трагічнае жыццё украінскага настаўніка-інтэлігента ў Аўстра-Венгрыі, буржуазнай Польшчы. Потым спявалі песні: славутую «Кацюшу», «Повій, вітре, на Вкраїну», шаўчэнкаўскі «Заповіт», чырвоныя песні рабочага Львова. І быў, як кажуць у такіх выпадках, вялікі святочны канцэрт, банкет на ўвесь свет. Дамоў я вяртаўся ўжо 22 чэрвеня на світанні. Толькі лёг — званок з гарвыканкома: «Збірайся, высылаем машыну...»

У двары гарвыканкома нам выдалі зброю. Мы, радавыя і адказныя работнікі гарадскога і абласнога выканкомаў, сталі байцамі аб'яднанага знішчальнага атрада. Я даведаўся, што камандзірам нашага атрада прызначан мой зямляк, добры знаёмы па сумеснай рабоце ў Петрапаўлаўскім раёне, начальнік упраўлення будматэрыялаў Аляксей Серада...

*(Працяг будзе)*

## АБ ДЗЕЙНАСЦІ ГУРТКА БГКТ

Згодна з планам працы гуртка БГКТ у Трасцянцы 12 студзеня адбылася ў нашым клубе ўрачыстая акадэмія, прысвечаная 30 гадавіне Польскай рабочай партыі. Галоўнымі арганізатарамі былі павятовы камітэт ПАРП і павятовае праўленне БГКТ. На ўрачыстасці прысутнічалі прадстаўнік Войска Польскага былы ППР-овец тав. Кур'ян, сакратар ПРН у Гайнаўцы тав. Гаўрылюк, інструктар КП тав. Мілкоўскі, сакратар аддзела БГКТ Віктар Бура і былыя члены ППР з грамады Трасцянка. З дакладам выступіў на беларускай мове сакратар прапаганды КГ тав. Юшкевіч. Затым сакратар ПРН уручыў пэпээраўцам дыпломы. Пасля гэтага з прамовай выступіў былы член ППР Пётр Пракапюк, які расказаў аб станаўленні народнай улады ў гміне Нараў.

Пасля афіцыйнай часткі апаратурай ГП БГКТ быў паказан савецкі фільм «Два друга». Урачысты вечар закончыўся спатканнем пры чорнай каве членаў БГКТ і КГВ з гасцямі ўрачыстасці.

* * *

15 студзеня гурток БГКТ арганізаваў ёлку і забаву для сваіх членаў. Вялікую дапамогу ў арганізацыі гэтага мерапрыемства аказаў сакратар аддзела Віктар Бура.

*Сакратар гуртка БГКТ*
*у Трасцянцы Г. Тапалянская*




*Дарагое Сэрцайка!*

У маёй вёсцы існуе ГРН. Там працуе Люба. Сама яна з іншай вёскі, далёкай ад маёй. Працуе ў нас ужо некалькі год. Вядома, калі прыязджае ў вёску «чужая» дзяўчына, заўсёды за ёю пачынаюць «ухажываць» хлопцы, бо то ж не «свая» дзяўчына, а чужая — дык і «лепшая». Нібы абсурдальная рэч, а ўсё ж праўдзівая.

Люба мне спадабалася. Вельмі люблю з ёю пасядзець, пагаварыць. Я маю спакойны характар, і не вельмі адважны, а яна — о, яе ўсюды многа! Мы пасябравалі. Наведваў я Любу часта. Потым пайшоў у армію. Пісаў пісьмы. Прыязджаў у водпуск і таксама сустракаўся з Любай.

Думаў, што калі пайду ў войска, дык мо забуду пра Любу, мо спадабаецца іншая. Аднак вярнуўся і пераканаўся, што кахаю толькі яе, і ніякая дзяўчына за ўвесь час нашай разлукі, нават на момант мне не спадабалася.

У нас гавораць (ды нават у вочы), што я прыгожы, прыстойны, а Люба — непрыгожая. Гавораць, што і так з гэтага не будзе добрай, уданай сям'і. А Люба яшчэ і старэйшая ад мяне на пару год. Я б не слухаў людзей, але мае бацькі цэлымі днямі ўсё гавораць мне аб тым, каб я паспрабаваў яшчэ куды выехаць на работу, мо тады ўсё між намі скончыцца, бо яны таксама лічаць, што мы не падыходзім адзін да другога.

Дарагое Сэрцайка, парай, што мне рабіць, ці слухаць бацькоў і выехаць, ці жаніцца з Любай, бо я сапраўды, відаць, кахаю Любу. Гэта ж ужо 3 гады прайшло, а мне ніводная дзяўчына не спадабалася так, як яна. Парай.

*Алёша*

*Алёша!* Напэўна тое, што Люба старэйшая, ці брыдчэйшая ад цябе, не сведчыць аб тым, што мае быць вашае супружаства няўданым. Некаторыя, бачыш, вельмі абмяжоўваюць паняцце шчасця. Бо ці ж яно залежыць толькі ад прыгажосці чалавека? Напэўна не. Здаецца, вы сапраўды пакахалі адзін другога, тым больш, што ты ў гэтым пераканаы, бо аж два гады разлукі з Любай нічога не змяніла ў вашых адносінах. Таму, мне здаецца, няма патрэбы выязджаць і крыўдзіць гэтым самым сябе і Любу. Аднак ты павінен пераканаць у гэтым сваіх бацькоў. Ведаю, што гэта будзе цяжкая справа, бо кожныя бацькі лічаць сваё дзіця найпрыгажэйшым, найлепшым і так далей, але паспрабуй. Варта!

*Жадаю ўсяго найлепшага!*
*Сэрцайка*

## У ШКОЛЕ Ў КАТЛАХ

У пачатковай школе ў Катлах, Бельскага павету, працуе 5 настаўнікаў. Вучаць яны каля 100 вучняў. У школе актыўна працуе гарцэрская і зухаўская арганізацыі. Цяпер гарцэры і зухі актыўна дапамагаюць лясным звяркам і птушкам перажыць зіму. Робяць яны кармушкі для птушак і так званыя паснікі для зайцаў. Сваім крылатым сябрам сыплюць яны зерне, а зайцам кладуць лісткі капусты, сена, кармавыя буракі, моркву. Працай гарцэрскай арганізацыі кіруе настаўніца Люба Карыцкая (яна ж і кіраўнічка школы). Большая частка вучняў мае ўласныя ашчадныя кніжкі (СКО) з грашовымі ўкладамі. СКО вядзе настаўніца Валя Петрашко. Найбольш грошай на кніжках СКО маюць наступныя вучні: Ліда Хаманюк (VII кл.), Святлана Гушч (VI кл.), Ніна Жукоўская (VIII кл.) ЯнкаВаласовіч (IV кл.), Святлана Гарбацэвіч (III кл.) і Ірка Пацэвіч (III кл.).

У катлоўскай школе існуе вучнёўская крама «Світанне», у якой ёсць тавараў на 800 зл. Зараз прадаюць у ёй вучаніцы VII класа Ліда Хаманюк і Валя Пацэвіч. У школьнай краме вучні могуць купіць сабе сшыткі, алоўкі, піроржнае і інш. (яц)

## КАНЦЭРТ

26 студзеня ў нашым ліцэі адбыўся чарговы канцэрт артыстаў Варшаўскай філармоніі. Мэтай канцэрта было прадставіць эпоху рамантызму творамі вялікіх кампазітараў.

*Янка*
*Бельскі беларускі ліцэй*

## КУРЫНАЯ ФЕРМА

Курыную ферму ў паспулдзельчых будынках у Плёсках утварылі спулдзельцы з Дарожак. Яны адрамантавалі будынак, правялі там цэнтральнае ацяпленне і дастасавалі яго да патрэб курынай фермы. Зараз на ферме гадуецца 13 тысяч штук птушак. Добра яны тут гадуюцца, хутка растуць. Неўзабаве ўжо спулдзельня будзе іх прадаваць.

*Л. Леанюк,*
*Плёскі*

## НПК У ВЁСЦЫ

У Чэхах Арлянскіх налічваецца 70 гаспадароў. Зямля тут слабая, у асноўным VI класа. У 1970 годзе закончылася тут камасацыя. На пясках засаджан лес. Пасля камасацыі сяляне сталі прымяняць больш мінеральных угнаенняў і атрымоўваць вышэйшыя ўраджаі. Мінеральныя ўгнаенні ГС з Кляшчэляў прывозіць у кожную вёску.

*Тэкст і фота Мікалай Корх,*
*Чэхі Арлянскія*



## ЁЛКА Ў ШКОЛЕ

Так як і ў мінулыя гады, у пачатковай школе ў Патоцы адбылася навагодняя ёлка. Было гэта 22.I.72 года. На ёлку прыехалі прадстаўнікі апякунчай адзінкі ВСТВ з Беластока. Разам з імі прыехаў традыцыйны «Дзед Мароз» з поўным мяшком падарункаў. Падарунак для кожнага дзіцяці каштаваў звыш 50 зл. Апрача таго, прывезлі яны для ўсіх па пончыку і апельсінны напітак. Школьнікі весела гулялі і танцавалі пры музыцы малога хлопца (унука Дзеда Мароза). Было вельмі весела.

Варта адзначыць, што многія нашыя школы маюць сваіх апекуноў, але апякунчыя адзінкі ў большасці забываюцца аб сваіх абавязках.

Бацькоўскі камітэт пры пачатковай школе ў Патоцы шчыра дзякуе сваім апекунам за памяць аб патоцкіх малышах.

*Мікола Краўчук*
*Патока*




*Янка.* Вельмі нас цешыць, што хочаш пісаць у «Ніву». І калі, як пішаш, ёсць аб чым пісаць, дык ніякіх перашкод не існуе, каб здзейсніць свой намер. Усё, што пішуць карэспандэнты, мы змяшчаем. Толькі не трэба хвалявацца, калі дасланы матэрыял не друкуецца ў наступным нумары. З тэхнічных прычын зрабіць гэтага не можам: прадукцыйны цыкл тыднёвіка іншы, чым штодзённай газеты. Так было і з тваім матэрыялам.

Трэба толькі табе змяніць псеўданім. «Янку» ўжо маем.

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Czarne skrzydła" (polski), 22—23. „Zielone smugi" (radz.), 24—25. „Kaszabe" (polski), 26—27.

**Нараўка**

„Prom" (polski), „Południk zero" (polski), 23—27.

**Нарва**

„Niezawodni przyjaciele" (radz.), „Spotkanie w „Bajce" (polski), 23—27.

**Чыжы**

„Mały" (polski), „Lokis" (polski), 23—27.

**Дубічы Царкоўныя**

„Kanał" (polski), „Irena do domu" (polski), 23—27.

**Арэшкава**

„Pejzarz z bohaterem" (polski), „Świeć moja gwiazdo" (radz.), 26—27.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Czerwony namiot" (radz.), 23—27.

**Орля**

„Na torze czeka morderca" (czeski), „Przeciw Wranglowi" (radz.), 23—27.

**Райск**

„Straszliwe skutki awarii telewizora" (czeski), „Los Golfos" (hiszpański), 23—27.

### САКОЛЬСК ІПАВЕТ

**Крынкі**

„Na Rusi (radz.), 22—23. „Zbrodniarz, który ukradł zbrodnię" (polski), 24—25. „Kapitan Korda" (czeski), 26—27.

**Шудзялава**

„Pan Wołodyjowski" (polski), 23—27.

**Янаў**

„Perła w koronie" (polski), 23—27.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Kochałem cię" (radz.), 22—23. „Celuloza" (polski) 24—25. „Pod gwiazdą frygijską" (polski), 26—27.

**Мельнік**

„Słońce obcego nieba" (jugosł.), 22—23. „Martwa fala" (polski), 24—25. „Pożądanie zwane Anadą" (czeski), 26—27.

**Мілейчыцы**

„Język zwierząt" (franc.), 22—23. „Człowiek z M-3" (polski), 24—25. „Kochana ciocia Sarika" (radz.), 26—27.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Siedem dziewcząt kpt Zbrujewa" (radz.), „Cena strachu" (franc.), 23—27.

**Новы Двор**

„Dziki i swobodny" (ang.), „Spojrzenie na wrzesień" (polski), 26—27.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wrzystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7216 E-3




## Парадак у Коматаўцах

Коматаўцы ляжаць над ракой Свіслач. Вёска вялікая, аж 100 гаспадароў. Многія маладыя, з немалымі гаспадаркамі. Ёсць у нашай вёсцы святліца, а ў ёй на двух ссунутых сталах стаіць скрынка, якая, калі не купляй, каштавала 12 тысяч злотых. Кожны гаспадар даў на яе па 100 злотых, рэшту далажыў сельгасгурток. Цяпер гэта «скрынка» (так мы назвалі свой тэлевізар) амаль год няспраўная. Хто ж будзе дбаць пра гэту справу? Няма каму. Бо гэта справа нікому не прыносіць карысці. Кажаце: праўленне сельгасгуртка! Каб зрабіць нейкі папівон і ўзяць на гарэлку тысяч пяць, гэта яно робіць вельмі хутка, без згоды вышэйшых улад у Беластоку, а на тэлевізар, калі рамонт каштуе 100 злотых, трэба пісаць у Беласток, каб гэтых 100 злотых прызналі. А ўрачыстыя папівоны адбываюцца ў нас вельмі часта: на Новы год, Дзень жанчын і пры іншых нагодах. Адну аказію толькі ўсе забылі: «Дзень мужчын». Хіба ж гэта горшае свята? Ці папівон тут менш прыдатны? Проста — лепш гэтага не бачыць.

А як у нашай вёсцы грамадскі чын выглядае? Збіраецца кіруючы актыў, ходзіць з хаты ў хату, просіць людзей выйсці на чын. Выходзяць тыя, што заказалі, плюс трактарысты сельгасгуртка і яшчэ пару арганізацыйна дысцыплінаваных людзей.

А як працуе ў нас жаночы гурток? Планава. Складзе план, але на выкананне яго не хапае дзён у годзе.

Ёсць у нас крама, а ў ёй прадаецца віно. Гэты напітак багоў можна тут купіць калі хочаш, нават а першай гадзіне ночы.

Каб арганізаваць у нашай вёсцы нейкі хор або паставіць нейкую «Пярэстую красулю», трэба мець на кожную пробу па бутэльцы боската напітку на кожную асобу. Інакш няма чаго спадзявацца.

Парадак у Коматаўцах высокаградусны.

*Саўка*



*— Колькі раз можна паўтараць: гэта кватэра дрэсіроўшчыка!*






### Талаваломка




Раздзяліце фігуру на часткі па ўзору, указанаму ніжэй. У кожнай частцы сума цыфраў павінна быць роўнай 20.

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара: 24.*

### ВОСЬ ГАСПАДЫНЯ

Вуліцай ідзе жанчына, за ёю бяжыць мужчына і крычыць:

— Людзі!.. Глядзіце, якую жонку маю, якую гаспадыню! У хаце ні грама гарэлкі, а яна апошнія грошы ўзяла і на хлеб пайшла.

### ДЖЭНТЛЬМЕНЫ

Два джэнтльмены сустракаюцца на палубе карабля.

— Страшэнная нуда, сэр, — гаворыць адзін. — Ці не хочаце згуляць у карты?

З прыемнасцю, сэр, але, на жаль, апошні раз я гуляў пятнаццаць год назад.

— Нічога страшнага, — я — дваццаць год назад. Сюоард, падайце калоду карт.

Сцюард прыносіць карты. Першы бярэ калоду, узважвае на далоні і гаворыць:

— Адной карты не хапае.

Другі таксама прыкідвае калоду на далоні і ўдакладняе:

— Васьмёркі пік.

### ЗНАЙШОЎСЯ

*Арцельны шэф год падбіраў*
*Кіраўніка грашовых спраў,*
*Глядзеў, ці варыць галава:*
*«А колькі будзе... два плюс два?..»*
*І ўсе адказвалі: «Чатыры».*
*Ды вось знайшоўся зух-прайдзісвет,*
*Спытаў: «А колькі б вы хацелі?..»*
*І... галоўбухам стаў арцелі.*

*І. Радзіеўскі*

### МАРКА ДЛЯ АДКАЗУ

Адзін спявак, якога скупасць вядомая ўсяму свету, увесь час атрымліваў велізарную колькасць лістоў.

— Вы адказваеце на ўсе лісты? — спыталі ў яго нядаўна.

— Так, на ўсе. Дакладней — на ўсе тыя, у якіх ёсць марка для адказу.

### ЧАМУ

— Радавы Свенсан, чаму вы ідзеце ў сталовую з вінтоўкай?

— Пане капітан, я не хачу яшчэ раз астацца без кавы.

### ДОКАЗ

*— Чуў я, Хведар, што бясконца,*
*Як на прывязі цяля,*
*Увесь час наўкола сонца*
*Наша круціцца зямля!*
*— Ат, не вер! Марочыш, хлопча,*
*Галаву сабе дарма!*
*А што ж робіць яна ноччу —*
*Сонца ж уначы няма?*



*— Усёй сям'ёй сталі на лыжы.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Алі Міхальчук з Гайнаўкі змяшчаем песню

## Medytacje wiejskiego listonosza

**Słowa: Leszek A. Moczulski**
**Muzyka: Andrzej Zieliński**

Świat ma conajmniej tysiąc
wiosek i miast.
List w życiu człowiek pisze
najmniej raz.

Ludzie zejdźcie z drogi,
bo listonosz jedzie.
Zamknij gaz, to co że za granicą
wujka masz.
Ludzie zejdźcie z drogi,
bo listonosz jedzie!
Hamuj, bo rower ten
każdy tutaj dobrze zna
... Dostaniesz od wujka list.

Ja wiem, kto w życiu myśli
nie pisze nic.
Kto bardzo kocha pisze
długi list.

Ludzie zejdźcie z drogi,
bo listonosz jedzie.
Ciężka jest od listów torba
listonosza dziś.

Ludzie zejdźcie z drogi,
bo listonosz jedzie!
Może ktoś na ten list czeka
kilka długich lat.
... Dostanie go może dziś.
Ludzie listy piszą
zwykłe, polecone,
Piszą, że kochają, nie śpią, kłną
i całują
cię.

Ludzie listy piszą
nawet w małej wiosce,
Listy szare, białe, kolorowe.
... Kapelusz przed pocztą zdejm.

### ПЕРАСТРОІЎСЯ

Маці з дарослаю дачкою ўваходзіць да лекара.

— Прашу раздзецца, — звяртаецца лекар да дзяўчыны.

— Але хворая не яна, а я, — тлумачыць маці.

— Ах, вы! Тады пакажыце язык.



*Без слоў.*

### СУПАКОІЎ

Наведвальнік незадаволена адсунуў талерку і паклікаў афіцыянта:

— Скажыце, калі ласка, у вас кожны дзень такія дрэнныя абеды?

— Ды не! Па панядзелках сталовая не працуе.

### ДЗЕ ТАЯ КАМАНДА?

Адна бабуля шукала пажарную каманду, каб узяць даведку пра свайго мужа, які там калісьці працаваў. А як завецца тая каманда, забыла. Ды і пытае прахожага:

— Скажыце, калі ласка, дзе тут тая каманда, што яны там ляжаць, ляжаць, а потым схопяцца ды як пабягуць...

### ШТО РАБІЦЬ?

Адзін п'яніца, седзячы на тратуары, увесь час паўтарае:

— Гэта не ён... Гэта не ён... І гэта таксама не ён...

— Што вы тут робіце? — пытае прахожы.

— Ды вунь будынкі прагульваюцца... Я і чакаю, калі прыдзе мой.

### СКАРГА ПАЭТА

— Доктар, калі позна ноччу я пішу вершы, дык да раніцы ўжо не магу заснуць.

— А вы паспрабуйце прачытаць тое, што напісалі.



### ЯКІ ЧАС

— Скажы, Пятрусь, які гэта будзе час, калі скажам: я мыюся, ты мыешся, ён мыецца? — спытаў настаўнік.

— Нядзеля! — адказаў вучань.

### МАЕ МАГЧЫМАСЦЬ

Гаспадар фермы прымае госцю — чароўную дзяўчыну са сталіцы і паказвае ёй сваё гаспадарства.

— Ах, — кажа ён раптам, паказваючы ёй на карову і цяля, якія чула труцца мордамі. — Ах, якое чароўнае відовішча! Як бы я хацеў адчуць нешта падобнае!

— Што ж вам перашкаджае? — адказвае яму дзяўчына, усміхаючыся. — Карова ж ваша!






### ВОЛБІ І СЯМЁРА ШЧАНЯТ

Так здарылася, што пінгвіну Волбі выпаў лёс жыць у Лондане. У Лондане жыве мала пінгвінаў — у гэтым Волбі пераканаўся адразу — і проста няма з кім адвесці душу. Ніштаватае жыццё пачалося ва ўраджэнца Антарктыды, калі ў суседнім двары ў сабакі Кім з'явіліся сямёра блізнят. Чужыя — але ўсё ж дзеці! І Волбі ўзяў шчанят пад апеку. Ён ахоўвае іх ад чужых вачэй, укрывае сваімі крыламі, калі маці адлучаецца. На розніцу колькасці лап пінгвін увагі не звяртае: галоўнае — скончылася адзінота.

### ЭВМ НА СЛУЖБЕ ПАЛІЦЫІ

Амстэрдамская крымінальная паліцыя ў 1965 годзе першая ў Еўропе пачала выкарыстоўваць у сваёй рабоце ЭВМ. За шэсць гадоў у ёй назбіраліся звесткі прыкладна на 53.000 падазроных асоб, а таксама падрабязнае апісанне зробленых злачынстваў. Электронная «картатэка» амстэрдамскай паліцыі інтэнсіўна папаўняецца. Штогод рэгіструецца не менш чым 9.000 злачынстваў.

Новы памочнік паліцыі, які з вялікім поспехам канкурыруе з некалі незаменнымі сыскнымі сабакамі, не дарэ злачынцам нават самай малой памылкі. У амстэрдамскай паліцыі з задавальненнем успамінаюць, як некалькі гадоў назад было раскрыта буйное абрабленне. Адзін з грабіцеляў, захапіўшы здабычу ў 350.000 гульдэнаў, паспешна крыкнуў свайму партнёру: «Хутчэй Лекс». Гэтага было дастаткова, каб, скамбінаваўшы імя з іншымі прыкметамі, ЭВМ хутка вызначыла асобу Лекса, якога шукалі.



*Наступіш на пяткі таму, хто іх падмазаў, — паслізнешся.*